*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 215 (567)**

Субота, 28 лістапада 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Незлобивые заметки**

*Семен БУКЧИН*

## "П-п-шел вон! Надоел, проклятый!"

Формы государственного цинизма у нас достаточно разнообразны. Писано-переписано о них, в негосударственной, разумеется, прессе. Но когда власть "подключает" свою печать... Как говорят в одном южном городе, "это что-то особенного"!

"Советская Белоруссия" пригласила нас "к разговору". Заголовок-зачин, что называется, нравственно-пронзительный: "Не спрашивай, что дала тебе Беларусь! Скажи, что ты дал Беларуси?" И далее очень смело, если учитывать, что это "СБ": "Тебе (имеется в виду простой гражданин своей страны. — **С.Б.**) сегодня нелегко. Денег в семье не хватает. По утрам в троллейбусе давка. Цены растут. За будущее детей тревожно".

Такие речи — и в президентской газете? Почему это тревожно за будущее детей, когда у нас есть общий добрый и заботливый Папа, который все устроит? Куда он вдруг подевался этот Папа?

Оказывается, разъясняет "СБ", эти речи ("Александр Григорьевич! Помогите! На вас вся надежда") ныне не так уж "безупречны". Что это вы, дорогой соотечественник, все на президента да на президента свои беды валите? Он вам, знаете ли, не Волшебник Изумрудного Города! Радуйтесь, "что нет войны, что не убивают на улицах, что не остановились заводы, что в квартирах не отключают свет и тепло, что вовремя платят зарплату и пенсии, бесплатно и доступно образование и лечение". Вон на Камчатке младенцы помирают от холода и голода.

Конечно, можно много сказать и по поводу того, что "не убивают", и о "неостановившихся заводах", и о супертеплых наших квартирах, не говоря уже о замечательных зарплатах и пенсиях и "доступном лечении"... Не забыть, конечно, и о ломящихся от продуктов полках магазинов. Но что толку спорить с прикормленным газетным писарем, который даже имечко свое постыдился поставить?

Другое важно. Тенденция, которую писарю четко приказали обозначить. Хочешь быть "выше простейшего желания уцелеть"? Ну так шевелись, "простой гражданин своей страны"! А как же власть? — оборачивается по привычке гражданин. И слышит: "Власть, со своей стороны, провозгласила: в Беларуси наметился определенный индустриальный подъем и созданы условия для развития, но все то большее, чего можно достичь на этой базе, мы должны взять у жизни вместе".

Вот так, дорогой простой гражданин! Тебе созданы условия... И вообще, как тебе не стыдно жаловаться и загибаться в обстановке "наметившегося определенного индустриального подъема"?

Считая, что преамбула уже изложена, "Советская Белоруссия" приступает к главному: "Согласны ли вы сами отвечать за благосостояние своей семьи? Согласны ли искать, терпеть, действовать, рисковать (в рамках законов!) ради себя самого и собственных интересов? Согласны ли быть ответственными самостоятельными гражданами своей страны, а не только объектом неустанной опеки президента?"

Если перевести эту псевдопатетическую чепуху на нормальный язык, то "простому гражданину" говорят: власть ничего не может сделать для тебя, если не хочешь подохнуть с голоду, придумай что-нибудь сам, а на президента более не надейся. А если еще проще... Вспоминается барин из рассказа одного старого русского писателя. Он как-то сказал постоянно канючившему дворовому: "П-п-пшел вон, проклятый! Надоел!"

Ну вот и услышал, наконец, простой белорусский гражданин заветные слова от своего барина... Дождался...

Он, этот самый простой белорусский гражданин, конечно, мог бы сказать власти, что он крутился, он старался, активничал, как мог, но она, власть, обложила его непосильными налогами, окружила тучами жадного чиновничества, которое знает только одно слово "Дай!", она, власть, наиздавала тысячи законов и указов, чтобы ему, простому гражданину, жилось, как в клетке, шаг влево, шаг вправо — стрельба без предупреждения. Он, простой гражданин, мог бы вспомнить, что власть влезла во все щели, что она уже диктует не только, на каком языке писать, но и как думать, какие исторические исследования писать... Нет продыху от нее. И вот с милой улыбкой нас спрашивают: "Согласны?" Ну как можно отказать, когда еще и вместе!

Итак, через четыре года счастливейшего для всех нас президентства нам милостиво бросают сверху: "Помоги себе сам!" Власть признала собственное бессилие, укутав признание в дешевые словеса-призывы к индивидуальной активности. Но есть еще более здоровый выход, господа управляющие! В странах, где власть "не может", она попросту уходит. Правда, не без помощи народа.

У нас ситуация другая. Власть предлагает уйти народу. А как еще можно воспринять эти слова: "Не спрашивай, что дала тебе Беларусь? Скажи, что ты дал Беларуси?" Что это как не парафраз известного изречения: "Не спрашивай по ком звонит колокол? Он звонит по тебе!"

Скажете: это от бескультурья так получилось... Конечно, от бескультурья. Но та самая тенденция, о которой мы говорили выше, она очевидна: "П-п-пшел вон! Надоел, проклятый!"

**Печально!**

## МИД не знает, почему глава белорусского государства не выразил соболезнования дружественной России по поводу убийства видного политического деятеля Галины Старовойтовой

Министерство иностранных дел провело очередной брифинг. На вопросы представителей средств массовой информации отвечала заместитель министра Нина Мазай. Выслушав малоинтересующую их подготовленную информацию, журналисты задали вопросы по животрепещущим проблемам.

— Какова реакция белорусской стороны на заявление пресс-секретаря Госдепартамента США Джэймса Рубина по поводу запрета Павлу Шеремету выехать из Беларуси для получения Международной премии?

— Почему Общественному российскому телевидению (ОРТ) отказали в проведении телемоста с Павлом Шереметом?

— Почему глава государства, правительство, МИД не выразили соболезнования по поводу убийства видного политического деятеля и депутата законодательного органа союзного российского государства Галины Старовойтовой?

— Почему МИД вначале не выдал въездную визу депутату Европарламента Элизабет Шредтер?

Ответа на эти и другие заданные вопросы журналисты не получили. Нина Николаевна раз за разом повторяла, что обращение не по адресу или вообще оставляла вопрос без ответа.

Печально!

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**Стоп-кадр**

*Што думае гэтая вясковая жанчына, зазірнуўшая ў камерцыйны кіёск недалёка ад сталічнай Камароўкі?*
**Фота IREX/ProMedia.**

**Дэмакратыя па-беларуску**

## Арганізатары праваабарончага кінафестывалю ў Мінску сутыкнуліся з шэрагам праблем

Арганізатары І Міжнароднага фестывалю праваабарончага кіно ў Беларусі, які пройдзе ў Мінску з 30 лістапада па 5 снежня, сутыкнуліся з шэрагам праблем. Пра гэта ішла гаворка на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў прадстаўніцтве ААН у Беларусі.

Па словах дырэктара студыі "Таццяна" Таццяны Логінавай, узніклі пэўныя праблемы з месцамі для дэманстрацыі фільмаў. На думку арганізатараў, гэта звязана з "выклікаючымі алергію ва ўлад" імёнамі і тэмамі фестывалю — Алесь Адамовіч, Святлана Алексіевіч, Юрый Хашчавацкі; Курапаты і Чарнобыль. Генеральны прадзюсер міжнароднага праваабарончага кінафестывалю "Сталкер" Ігар Сцяпанаў паведаміў, што дырэктары буйнейшых сталічных кінатэатраў "Кастрычнік" і "Масква" вельмі ветліва, пад надуманымі прычынамі, адмовілі арганізатарам у дэманстрацыйных залах. А дырэктары кінатэатраў "Перамога" і "Піянер", па словах І.Сцяпанава, "пад націскам Міністэрства культуры паспрабавалі гэта зрабіць". Пры гэтым, адзначалася на прэс-канферэнцыі, адкрыта ніхто не выказваўся супраць правядзення фестывалю.

На думку арганізатараў, цяжкасці, з якімі сутыкнуўся кінафестываль у самым пачатку, апраўдваюць яго назву "праваабарончы". Як раней паведамляў БелаПАН, фестываль, прысвечаны 50-годдзю прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, праводзіцца пад эгідай і пры фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва ААН у Беларусі, студыі "Таццяна", урадаў Германіі і Швецыі, а таксама фонду Форда. Яго ўрачыстае адкрыццё адбудзецца 30 лістапада ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў.

На працягу шасці фестывальных дзён будуць дэманстравацца мастацкія і дакументальныя кінастужкі з Беларусі, Грузіі, Індыі, Літвы, Польшчы, Расіі, ЗША і Швецыі. У рамках фестывалю адбудуцца прэзентацыі кніг В.Фаміна "Кіно і ўлада" і Святланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва", выстаў аб рэпрэсаваных кінематаграфістах, а таксама карыкатур Алега Карповіча і фатаграфій Анатоля Кляшчука на тэму "Кожны чалавек мае права..."

У праграме фестывалю — фільмы па правах чалавека, прадастаўленыя Дэпартаментам грамадскай інфармацыі ААН. Фестывальныя прагляды будуць праводзіцца бясплатна ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў і Беларускім саюзе кінематаграфістаў, а таксама ў кінатэатрах "Перамога" і "Піянер".

**Марат ГАРАВЫ.**

### Надвор'е

28 і 29 лістапада на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае, з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікі снег. Вецер паўднёва-ўсходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы -7...-12, месцамі да -18. Удзень — -3...-8.

## Доўг Беларусі за расійскі газ павялічыўся з пачатку года ўтрая і склаў 250 мільёнаў долараў ЗША

Расійскі "Газпрам" разгледзіць пытанне аб павелічэнні паставак газа ў Беларусь у будучым годзе толькі пасля вырашэння ключавых праблем пагашэння рэспублікай доўгу за пастаўлены газ. Такая заява прагучала падчас перамоў у Маскве старшыні праўлення РАТ "Газпрам" Рэма Вяхірава з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам.

Па інфармацыі расійскага газавага канцэрна, запазычанасць Беларусі за пастаўлены газ вырасла з пачатку года ў тры разы і дасягнула 250 мільёнаў долараў. 16 кастрычніка гэтага года ў Маскве было падпісана міжурадавае пагадненне аб урэгуляванні пытанняў аплаты за пастаўкі энерганосьбітаў. Аднак беларускі бок дагэтуль не прыступіў да распрацоўкі механізму правядзення разлікаў за газ шляхам паставак бюджэтным арганізацыям Расіі харчавання і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў. Хаця ў адпаведнасці з падпісаным дакументам гэты механізм павінен быў быць выпрацаваны яшчэ да сярэдзіны лістапада.

Згодна з узятымі на сябе абавязацельствамі, у гэтым годзе Беларусь павінна выплаціць "Газпраму" 225 мільёнаў долараў "жывымі грошамі". Аднак на сённяшні дзень выплачана толькі палова гэтай сумы. Падчас перамоў у Маскве "Газпрам" не выказаў пярэчанняў супраць прапановы Беларусі перайсці да аплаты газа расійскімі рублямі. Аднак было заяўлена, што Беларусь павінна сама ўзгадніць гэтае пытанне з урадам Расійскай Федэрацыі.

**Аляксандр ПАПОВІЧ.**

**Шаноўныя сябры! НАГАДВАЕМ:**

**працягваецца падпіска на першую палавіну 1999 года. Спадзяёмся, што адзіная рэспубліканская штодзённая незалежная газета будзе і надалей вашым любімым выданнем.**

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

## Народная Грамада — у грамаду

На апошнім пасяджэнні Выканаўчага бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) — БСДП — разгледжана пытанне аб удзеле партыі ў масавых акцыях. Вырашана, што БСДП прыме актыўны ўдзел у акцыі пратэсту прафсаюзаў 2 снежня і ў дэманстрацыі і мітынгу БНФ у абарону правоў чалавека 6 снежня.

**Вітольд БАРАВІЦКІ.**

## Пашыраецца геаграфія распаўсюджвання СНІДу ў Беларусі

Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу, які будзе адзначацца 1 снежня, стаў падставай для размовы ў Нацыянальным прэс-цэнтры.

Адзначалася, што значна пашырылася геаграфія распаўсюджвання ВІЧ/СНІДу ў нашай краіне. Калі два гады таму статыстыкі называлі 35 адміністрацыйных тэрыторый Беларусі, то ў 1997 — 55, а ў гэтым — ужо 70.

**Аксана ПІВАВАР, БелТА.**

## Беларусы загінуць не ад чарнобыльскай радыяцыі, яны ўжо гінуць ад гарэлкі

Аргкамітэт 2-й міжнароднай канферэнцыі "Традыцыйная духоўнасць і цвярозасць — аснова здаровага ладу жыцця народа Рэспублікі Беларусь", што прайшла ў Мінску, накіраваў прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку зварот. У ім утрымліваецца заклік прыняць "надзвычайныя меры па працвеража́нні рэспублікі".

У звароце ўдзельнікаў канферэнцыі прыводзяцца наступныя лічбы. Спажыванне алкаголю на душу насельніцтва ў Беларусі склала летась 20 літраў, а ў 1998 годзе можа перавысіць 25 літраў, і гэта пры тым, што ўжо пры душавым спажыванні 8 літраў у год, як лічаць вучоныя, пачынаецца незваротны працэс выраджэння народа і дэградацыі грамадства.

"Рэспубліка Беларусь загіне не ад чарнобыльскай радыяцыі — народ Беларусі ўжо гіне, як індзейцы ў Амерыцы, ад алкаголю, тытуню і іншых наркотыкаў", — лічаць арганізатары канферэнцыі.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

## У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава "Майстэрня мастака" з калекцыі А.Плясанава

На выставе да 110-годдзя К.Малевіча маскоўская мастацкая крытыка назвала А.Плясанава "першым з вядомых супрэматыстаў сучаснасці". Асноўнай тэмай сваёй творчасці ён лічыць дэвіз "Ад мноства да адзінства, ад адзінства да мноства". Першая за мяжой персанальная выстава А.Плясанава прайшла ў Варшаве ў 1987 годзе. У сакавіку таго ж года першая выстава "Майстэрня мастака" адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі (Палацы мастацтваў) у Мінску. У гісторыі Беларусі А.Плясанаў першым выставіў альтэрнатыўнае мастацтва, пасля чаго мастакам нетрадыцыйных стыляў дазволілі экспанаваць свае творы. У яго калекцыі ёсць прадстаўнікі розных стылёвых накірункаў мастацтва: абстракцыяністы, сюррэалісты, экспрэсіяністы і інш.

## Заява

### Выканаўчага бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада)

17 лістапада 1998 года Мінгарвыканкам сваім рашэннем №1182 дазволіў БСДП правядзенне 24 лістапада 1998 года дэманстрацыі і мітынгу, прысвечаных гадавіне "рэферэндуму" 24 лістапада 1996 года. Рашэнне прадугледжвала, у прыватнасці, такі парадак іх правядзення: "дэманстрацыя ўдзельнікаў мерапрыемства пры колькасці звыш адной тысячы чалавек — па крайняй правай паласе праезджай часткі, менш адной тысячы — па тратуары пр. Ф.Скарыны, без закрыцця руху грамадскага транспарту да перасячэння з вул. Я.Купалы, потым рух па вул. Я.Купалы да пл. Парыжскай Камуны".

У дэманстрацыі 24 лістапада ўдзельнічала, па розных ацэнках, ад дзвюх да трох тысяч чалавек. Нягледзячы на неаднаразовыя звароты арганізатараў акцыі да супрацоўнікаў міліцыі з патрабаваннем спыніць рух транспарту па крайняй правай паласе праезджай часткі пр. Ф.Скарыны, гэтага зроблена не было. Таму ў 17.15 у момант выхаду калоны дэманстрантаў з пл. Я.Коласа на крайнюю правую паласу праезджай часткі ўзнікла небяспечная сітуацыя для здароўя і нават жыцця ўдзельнікаў дэманстрацыі і дарожнага руху. Падчас руху калоны па крайняй правай паласе пр. Ф.Скарыны праз гучнагаварыцелі радыётрансляцыйнага аўтамабіля "Волга" ГАЗ-21 шэрага колеру супрацоўнікі міліцыі бесперапынна інфармавалі ўдзельнікаў дэманстрацыі аб тым, што шэсце дазволена толькі па тратуары, што яны парушаюць закон і могуць быць прыцягнуты да адказнасці. Гэта працягвалася нават пасля таго, як самі супрацоўнікі міліцыі, якія суправаджалі калону, прызналі, што яна налічвае больш як паўтары тысячы чалавек і што акцыя праводзіцца ў адпаведнасці з рашэннем №1182 Мінгарвыканкама ад 17 лістапада 1998 г.

Стваралася ўражанне, што такімі дзеяннямі супрацоўнікі міліцыі хацелі запалохаць удзельнікаў шэсця, не дапусціць павелічэння колькасці дэманстрантаў і справакаваць беспарадкі. Так, пры руху па вуліцы Я.Купалы тралейбус, які рухаўся ззаду дэманстрацыі, уехаў у сярэдзіну калоны пры поўнай абыякавасці супрацоўнікаў міліцыі. Толькі дзякуючы высокай арганізаванасці і дысцыплінаванасці ўдзельнікаў дэманстрацыі яе ўдалося правесці паспяхова, у адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкама.

Выканаўчае бюро БСДП лічыць, што падчас правядзення акцыі 24 лістапада супрацоўнікі ГУУС Мінгарвыканкама праявілі сябе як палітычна ангажаваная сіла. Іх дзеянні былі накіраваны не на падтрыманне грамадскага парадку, а на перашкоду арганізатарам дэманстрацыі і на запалохванне яе ўдзельнікаў. Выканаўчае бюро БСДП патрабуе, каб супрацоўнікі ГУУС Мінгарвыканкама, адказныя за стварэнне падчас правядзення акцыі 24 лістапада сітуацыі, у якой пад пагрозаю аказалася не толькі права людзей свабодна ўдзельнічаць у дазволенай уладамі дэманстрацыі, але і іх жыццё, былі пакараныя ў адпаведнасці з законам.

**Крымінал**

## Буйная партыя наркотыкаў знойдзена ў Жлобінскім раёне

25 кг макавай саломкі і 14 літраў экстракцыйнага опію знойдзена групай па незаконным абароце наркотыкаў Жлобінскага (Гомельская вобласць) раённага аддзела ўнутраных спраў у доме раней судзімага жыхара адной з вёсак гэтага раёна.

Супрацоўнікі міліцыі запэўніваюць, што гэта — буйнейшая партыя наркотыкаў, выяўленая на тэрыторыі вобласці за апошні час. Уладальнік сырабіны пакуль адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

**Акции**

## Шахтеры против забастовок, но за достойную жизнь

Митинг шахтеров в г.Солигорске в своей резолюции определил ряд конкретных мер и шагов, направленных на защиту горняков от дальнейшего падения жизненного уровня. Среди мер (пункты 8 и 9 резолюции) — предложения администрации провести конференцию трудового коллектива ПО "Беларуськалий" и, если она не состоится, провести собрание бригадиров шахтеров. Пункт 20 резолюции условно выглядит так: "В случае невыполнения требований митинга объявить предзабастовочное состояние".

Не достигнув соглашения с администрацией по проведению конференции, бригадиры горняков организовали собрание, на котором присутствовало около 150 человек. Высказывались различные предложения по усилению давления на администрацию, не прислушивающуюся к тому, что реальная заработная плата шахтера упала в несколько раз.

Горячие головы предлагали забастовку, бессрочную, суточную, на несколько часов. Другие предлагали учесть морозы и возможность выхода из строя поверхностных комплексов, если они останутся без руды. Третьи предостерегали против названия акции забастовкой, ибо она может быть произведена только с соблюдением законодательства. И все же собрание бригадиров определило метод воздействия на администрацию и правительственные структуры. В начале декабря шахтеры проведут очередную акцию, которая, помимо своего прямого назначения, покажет уровень их сплоченности и солидарности.

**Иван ЮРГЕВИЧ.**

## Ганаровыя званні і ўзнагароды дзяржавы — супрацоўнікам Мінскага лінгвістычнага універсітэта

Група работнікаў Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта ў сувязі с 50-годдзем вну ўказам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь.

Ордэнам Пашаны ўзнагароджаны **Іван Фролавіч КАМКОЎ** — прафесар кафедры методыкі выкладання замежных моў; медалём "За працоўныя заслугі" — **Валянціна Іванаўна ТУР**, дацэнт кафедры агульнага мовазнаўства; медалём Францыска Скарыны — **Тамара Мікалаеўна СУША**, прафесар кафедры лексікалогіі англійскай мовы.

Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь" прысвоена **Альбіне Мікалаеўне СЦЯПАНАВАЙ** — прафесару кафедры граматыкі французскай мовы; "Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь" — **Ніне Андрэеўне КАПАЧОВАЙ**, дэкану факультэта англійскай мовы.

**БелТА.**

**Перемены**

## Оскандалившиеся власти Республики Беларусь вновь пошли на попятную, разрешив въезд г-же Шредтер

Депутат Европарламента Элизабет Шредтер получила разрешение на въезд в Беларусь. Эта информация прозвучала на пресс-конференции зам. министра иностранных дел Елены Мазай.

Белорусские власти, сперва перекрыв доступ на территорию республики г-же Шредтер, испугались возможности возникновения очередного международного скандала. Разрешение сложившейся ситуации стало возможным исключительно благодаря работе средств массовой информации как в самой Беларуси, так и в Западной Европе. В очередной раз получил подтверждение тот факт, что только массированное сопротивление может послужить препятствием попыткам президента Лукашенко и его правительства сделать из Республики Беларусь тоталитарное государство по примеру Кубы или Северной Кореи.

Сама г-жа Элизабет Шредтер прокомментировала произошедшее пресс-центру Хартии'97 следующим образом: "Я очень удивлена. Я сама узнала об этом буквально несколько минут назад. Думаю, что такое стало возможным в результате давления со стороны авторитетных международных организаций, а также демократической общественности и независимых СМИ Беларуси. Нам удалось придать данному факту широкую огласку как внутри Беларуси, так и на международной арене, и, чтобы избежать очередного скандала, белорусские власти пошли на попятную. Пока не знаю, каким рейсом полечу в Минск, но то, что буду на конференции, — это обязательно".

## Па ступені рэфармавання вёскі Беларусь знаходзіцца ззаду ўсіх краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы

Па ступені рэфармавання вёскі Беларусь знаходзіцца ззаду ўсіх краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Са спасылкай на даклад саветніка па сельскагаспадарчых праектах Сусветнага банка Чабо Чакі, аб гэтым было заяўлена на міжнародным семінары "Сучасны стан сельскагаспадарчых рэформ у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы: урокі і варыянты магчымага выбару", які завяршыўся у Мінску. Арганізатарамі семінару выступілі Сусветны банк, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі, Акадэмія аграрных навук рэспублікі і Беларускі навукова-даследчы інстытут эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу.

Вучоныя, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, якія выступілі на семінары, сышліся ў меркаванні, што далейшы рух аграрнай рэформы ў Беларусі залежыць сёння не ад вучоных, а ад палітычнай волі ўладных структур.

Каментуючы вынікі семінару, загадчык сектара сацыяльнага развіцця вёскі Міхаіл Антоненка заўважыў, што Сусветны банк, магчыма, разгледзіць пытанне аб фінансаванні аграрнай рэформы ў Беларусі, калі будзе ўпэўнены ў тым, што гэтыя сродкі будуць выкарыстаны па прызначэнні.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

*Людмила ГУЛЯКЕВИЧ, собственный корреспондент "Народной воли" в Республике Польша*

## Беларусь — Польша: трансграничное сотрудничество

В Белостоке прошло второе заседание смешанной польско-белорусской комиссии по трансграничному сотрудничеству. В работе комиссии принимали участие с польской стороны замминистра внутренних дел и администрации Богдан Борусевич, а также представители Министерства экономики, Министерства внутренних дел, главной комендатуры пограничных войск, главного таможенного управления, Министерства транспорта, Министерства сельского хозяйства и продовольственной политики, воеводы Сувальского и Хелмского воеводств, советник руководителя Канцелярии премьер-министра Польши. Белорусскую делегацию возглавлял замминистра внешнеэкономического сотрудничества Валерий Садохо, который хорошо знает Польшу и проблемы польско-белорусского сотрудничества, поскольку назначение на пост замминистра он получил, будучи секретарем по экономическим вопросам в посольстве в Варшаве. В белорусской делегации также было представлено руководство (на уровне первых заместителей) Государственного таможенного комитета, Белоруской ТПП, комитета по автомобильным дорогам, погранвойск и, возможно, представители облисполкомов граничащих с Польшей областей. Комиссия собирается после двухлетнего перерыва, и потому вопросов накопилось немало.

На встрече рассмотрены три блока проблем: 1) развитие приграничной инфраструктуры и сотрудничества; 2) межрегиональное сотрудничество (культурное, экономическое, социальное, экономические проекты), в том числе сотрудничество в рамках еврорегионов; 3) сотрудничество в области архитектуры и территориального хозяйства.

Сам факт возобновления диалога по жизненно важным проблемам, каковыми являются поиск и достижение эффективного взаимовыгодного экономического сотрудничества и создание благоприятных условий для такого сотрудничества, — это хороший сигнал. Известно, что в последнее время отношения между Польшей и Беларусью значительно охладели. А белорусские чиновники высокого ранга если и приезжали в Польшу, то при оказии каких-то международных мероприятий. И хотя Польша формально не присоединилась к решению государств ЕС об особом визовом режиме для белорусских государственных лиц, но и большого желания приглашать их поляки не изъявляют. Так, на празднование 80-летия восстановления независимости Польши 11 ноября Александр Квасьневский пригласил президентов шести соседних государств, и конечно же Лукашенко среди гостей польского президента не было. Доходит до курьезов. В конце октября в Польше проходил экономический форум Польша—Восток, на который первоначально его организаторы — негосударственный Восточный институт — пригласили чуть ли не все белорусское правительство во главе с премьер-министром, однако накануне форума приглашения и Лингу, и его министрам были хозяевами отозваны, так что наряду с многочисленной делегацией белорусских предпринимателей и оппозиционных политиков Беларусь представлял только посол Виктор Бурский.

Однако в экономическом и торговом сотрудничестве заинтересованы обе страны. По словам торгового советника посольства Беларуси в Варшаве Анатолия Мусенкова, в торговле между Беларусью и Польшей в 1998 году отмечается небольшой — 2,5—3-процентный рост, который обусловлен значительным ростом импорта из Польши при падении белорусского экспорта, так что Беларусь имеет отрицательное сальдо в 80 миллионов долларов.

Народная Воля 28 ЛІСТАПАДА 1998 г.

## Ніл ГІЛЕВІЧ

# З вечаровых роздумаў на самоце

### Бесталкоўшчына

Зноў вечар, зноў сяджу перад экранам тэлевізара, гляджу і слухаю, што робіцца ў вялікай суседняй дзяржаве. Глядзець і слухаць, шчыра кажучы, цяжка і мутарна. Думкі родзяцца самыя невясёлыя. Увесь час, адчуваю, хочацца ўзарвацца ад нейкай нязгоды, ад абурэння і пратэсту. "Ну што за дурнота, браты? Што за бесталкоўшчына? Гэта ж самая што ні ёсць бесталкоўшчына! І яшчэ хочаце навязаць яе нам!.."

Бесталкоўшчына... Бесталкоўшчына...

Прамовіў гэта двойчы-тройчы сам сабе і схамянуўся: ты ж гэта самае аб Расіі калісьці дзесьці чытаў, ты ж па сутнасці некага цытуеш... Але каго? Пачаў успамінаць, перабіраць у памяці імёны аўтараў. І ўспомніў. Адшукаў на адной з бітком набітых паліц патрэбную кнігу, пагартаў і знайшоў пазначаныя на полі "клічнікамі" радкі. Чытаю: "Нового я ничего покуда не работаю, хотя затеи и есть и немало. Да и не работается что-то. Я, как Вам известно, человек Старой Руси, а Новая Русь (скорее — Нерусь) мне не по сердцу — это тоже своего рода духовное декадентство, захватившее и старцев, и мужей, и почти всех юношей до младенцев включительно! Русский народ, по-видимому, и талантливый, и умный — даже остроумный — и добрый, но, увы, самый бестолковый! Даже и подлость наших мерзавцев и предателей какая-то бестолковая. (...) За последние времена и, особенно, за последние тяжкие годы наших невзгод ни один в мире народ не относился и не относится так самоубийственно к своей родине!!!"

Ну вось, палез шукаць "бесталкоўшчыну", а знайшоў побач, у адным кантэксце, і яшчэ сёе-тое, што тады, як чытаў, моцна ўразіла, але на што ўжо забыўся: і "Новую Русь (скорее — Нерусь)", і "мерзавцев и предателей", і "самоубийственное отношение к родине". Усё гэта гучыць настолькі па-сучаснаму, настолькі з'яўляецца актуальным, што сапраўды — як у такім разе прынята падкрэсліваць — калі б не дата, можна было б з пэўнасцю сказаць: гэта напісана сёння, не раней зазімка 1998-га.

Ды не, шаноўны чытач. Проста — гісторыя паўтараецца, а разумныя і сумленныя людзі, сапраўдныя патрыёты Бацькаўшчыны, былі ў Расіі заўсёды. Пададзеныя вышэй радкі напісаў у лісце да Уладзіміра Васільевіча Стасава славуты рускі мастак Віктар Міхайлавіч Васняцоў. Без малога — сто гадоў назад: 16 красавіка 1906 года.

Да чаго ж жывучая бесталкоўшчына!

### Слова, якое апошліць і прынізіць немагчыма

З гадамі я ўсё часцей здымаю з паліцы і перагортваю томікі паэзіі Янкі Купалы, Тараса Шаўчэнкі, Хрысты Боцева, Шандара Пецёфі (апошняга, на жаль, не ў арыгінале, у перастварэннях на рускую)... Запыняюся на вершах, па звыклай тэрміналогіі, "грамадскага гучання": аб лёсе радзімы і народа, аб грамадзянскай доблесці, аб прызначэнні паэта... Якая прага свабоды, вольнай натхнёнай працы і творчасці, сацыяльнага прагрэсу, міру і братэрства людзей! Якая сіла адмаўлення зла, хлусні, паклёпу, пошласці і цынізму, злабы і нянавісці, дзікунства і абскурантызму! Гэтыя якасці іх паэзіі па-асабліваму ўспрымаюцца сёння, калі само жыццё ставіць крыж на ўсякім халоднакроўным рамесніцкім вершаскладанні. Чытаю — і кожны раз нанава ўражвае праўдзівасць, натуральнасць, нязмушанасць пачуцця, падкрэсленая асабістасць у дачыненні да прадмета размовы, гранічная дакладнасць, незаменнасць, абавязковасць слова. Якая надзвычайная, неверагодная канцэнтрацыя душэўных і духоўных сіл у слове! Такое слова даецца зусім не многім, толькі тым, каго Бог пазначыў сваім асобым знакам, інакш кажучы — выбраным. Бо яно — на ўзроўні слова валхвоў-пракаў. Помніце?

*Волхвы не боятся могучих владык,*
*А княжеский дар им не нужен;*
*Правдив и свободен их вещий язык*
*И с волей небесною дружен.*

"Правдив и свободен..." Вось іменна! Праўдзівае і свабоднае слова! Свабоднае — таму і праўдзівае. Такое слова прамаўляецца, каб гучаць доўга-доўга. Такое слова прынізіць і апошліць немагчыма. Яно прыходзіць, каб свяціцца і свяціць, зіхацець і ззяць, як агонь або зорка ў цемры, каб будзіць і клікаць, натхняць і весці, як баявая труба ў вызваленчым паходзе. Яго прыродная сутнасць — пратэст супроць тыраніі духу, супроць прыніжэння чалавечай годнасці, супроць ганіцеляў праўды і свабоды, сумлення і гонару. Яно — самы дакладны сінонім дэмакратыі. Каму хапае здольнасці і культуры яго зразумець — той спасцігае праўду Паэта.

### А цяпер уявім...

Знаёмыя і дарагія нам, колішнім ліцвінам, а цяпер беларусам, імёны: Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Ян Баршчэўскі... Спынімся на гэтых трох. Паэты нашага краю, нашай старажытнай зямлі. Кожны — са сваім самабытным голасам, са сваім непаўторным творчым абліччам. Першы — геніяльны, другі і трэці — проста таленавітыя. Усе трое — амаль равеснікі вялікіх расійскіх паэтаў: Пушкіна, Цютчава, Баратынскага. Аднаго з імі ўзроставага і паэтычнага пакалення. Ва ўсіх трох творчая спадчына (за нязначным вынятакм у Чачота і Баршчэўскага) — на польскай мове. Усе трое лічылі сябе дзеячамі польскай культуры, хоць і адчувалі сваё адрозненне ад палякаў з Польшчы, — і ў гаворцы, і ў самасвядомасці, і ў менталітэце. Першы застаўся перакананы ў гэтым на ўсё жыццё, нягледзячы на настальгічны плач "О Літва, мая Бацькаўшчына!". Гвалтам адарваны ад роднай зямлі, ад сяброў-ліцвінаў, ад духоўнай культуры народа, з якога і сярод якога ўзрастаў, ён і далёка на чужыне адчуў, што на Бацькаўшчыне тым часам пачынае дзеяцца штосьці амаль неверагоднае: пачынаюць веяць і абуджаць яго землякоў ад летаргічнага сну першыя ветры вясны адраджэння, прадвеснікі новай гістарычнай эпохі. Двое яго пабрацімаў, Чачот і Баршчэўскі, дажывалі век на радзіме, і яны яшчэ ў большай меры адчулі подых новага часу — пачатку ўваскрэсення занядбанага і заняпалага славянскага народа з нацыянальна-гістарычнага небыцця, пачатку вызвалення яго духу, а затым і ўсяго жыцця-быцця яго ад гібельнай апекі нязваных-няпрошаных апекуноў. Адчуўшы ж надыход гэтага пачатку, яны натуральна задумаліся над галоўным для кожнага інтэлігента пытаннем: хто мы? Хіба мы палякі? Не, зразумела. Мы — ліцвіны, дзеці гэтай зямлі, дзе нарадзіліся, дзе Нёман і Дняпро, Дзвіна і Прыпяць, дзе Наваградак і Бабруйск, Мінск і Магілёў, Гародня і Гомель, Бярэсце і Віцебск, Полацак і Тураў. Дык чаму ж мы ў сваіх пісаннях амаль не карыстаемся мовай гэтай зямлі, чаму не пішам ёю для народа, якому належым? І ўпадалі ў роспач: а што ж карыстацца, калі... калі школ на гэтай мове няма, кнігі, газеты і часопісы на гэтай мове не друкуюцца, справаводства на гэтай мове не вядзецца, ва ўстановах на ёй не гавораць, у арміі — таксама... Як жа выявіць сябе ў гэтай мове, як сцвердзіць сваё літаратурнае імя? І тым не менш нават у такіх варунках яны гэтай мовы не цураліся, сёе-тое на ёй пісалі, давалі ёй высокую ацэнку ў сваіх артыкулах і лістах, прарочылі ёй будучыню. Зрэшты, вельмі хвалебна, як вядома, гаварыў пра беларускую мову ў сваіх парыжскіх лекцыях і Адам Міцкевіч.

А цяпер уявім, што ўсе яны, сыны Беларусі, узрослыя з мясцовых беларускіх каранёў творцы, маюць сваю суверэнную дзяржаву, маюць права і магчымасць выдаваць на мове роднай зямлі свае творы. Уявім, што ёсць беларускія газеты і часопісы, ёсць выдаўцы, якія друкуюць беларускія кнігі. Уявім тысячы і дзесяткі тысяч беларускіх чытачоў, падрыхтаваных у беларускіх школах. Карацей — уявім усё тое, што мелі іх расійскія пабрацімы і равеснікі Пушкін, Цютчаў, Баратынскі. Як бы хараша, натуральна, свабодна раскрыліся іх паэтычныя таленты ў родным беларускім слове! Іх — і многіх-многіх іншых, такіх жа краэнных беларусаў, змушаных сілай гістарычных абставін культываваць мову суседняга народа.

Ах, гэтыя ўсемагутныя гістарычныя абставіны! Як жа неаднолькава, няроўна "абстаўляюць" яны шляхі і лёсы народаў!..

### Эхо

## Оплакиваю, как родную сестру

Я никакой не политик — самый что ни на есть простой человек. Но трагическая гибель замечательной женщины и блестящего политика Галины Старовойтовой ударила прямо в сердце. Словно это в меня стреляли. Словно она мне — родная сестра...

Она и есть (да, да, есть, а не была!) мне сестра — по духу, по взглядам на жизнь. Мы не были знакомы, никогда не встречались, не беседовали. Но как же мне, да и, верю, каждому нормальному совестливому человеку близко все, что говорила и делала Галина Васильевна. Она была отважным борцом в отстаивании своих глубоких демократических убеждений, бесстрашным защитником всего, что дорого и нам, белорусам, мечтающим о достойном, цивилизованном будущем нашей страны. Бог одарил эту выдающуюся россиянку незаурядным умом, большим сердцем и редкой нравственной высотой, подвиг ее на путь служения добру, правде и справедливости. И она с честью исполнила свой высокий долг.

Силы зла, которым встала на пути Галина Старовойтова, пошли на подлое преступление — убийство. Ее убийцы — не только ее личные враги. Они — враги России и Беларуси, враги демократии. И мои тоже. И неважно, кто нажимал на курок — я знаю заказчиков убийства и могу их назвать: это те, кто тянет наши страны в мрачное прошлое с полным бесправием народа, кровавыми репрессиями и вселенским страхом.

Но не быть тому, чего они хотят! Пусть каждый из нас возьмет с собой частичку мужества и душевной озаренности великой нашей современницы, и пусть все добрые люди объединятся вместе в утверждении высоких, светлых идеалов, ради которых отдала жизнь наша русская сестра. Мы скорбим о Вас, дорогая Галина Васильевна, мы будет помнить Вас с благодарностью и любовью. И вы будете с нами — опорой нам в наших духовных исканиях и повседневных делах ради утверждения на земле Радости и Доброты.

**Любовь Иванико, жительница поселка Ратомка Минского района.**

### Норавы

## Нелюдзь з пудовымі кулакамі

Па прыгавору Віцебскага абласнога суда жыхар Сянно П. асуджаны на 20 гадоў пазбаўлення волі. Сапраўдны пажар страсцей назіраўся ў той сакавіцкі дзень у вёсцы Полымя, куды прыехаў да сваёй каханкі гэты забойца. Будучы п'яным, ён стаў выхоўваць жанчыну кулакамі, а калі тая ўпала, яшчэ і нагамі. Усяго ж сучасны раўнівец нанёс 50 удараў, ад чаго няшчасная памерла.

Нешта не тое зараз пачало рабіцца з людзьмі. У адным невялікім Сенненскім раёне з пачатку года зафіксавана 6 забойстваў. У чатырох з іх ахвярамі былі блізкія людзі — жонка, цешча, сужыцельніца, якіх таксама адмалацілі кулакамі і нагамі да смерці ў час сямейных крывавых разборак. Тым часам у раёне застаюцца на уліку ў міліцыі яшчэ 102 сямейныя скандалісты і дэбашыры.

**Уладзімір ШЫТАЎ.**

### Фотапартрэт

## Жыве ў Шчучыне Сняжана...

БелТА.

### Чувства века

***Чуть больше года осталось до конца двадцатого века. Рубеж столетий, рубеж тысячелетий — достаточный повод для подведения итогов. Кто-то ведет счет преступлениям века, кто-то анализирует литературные итоги двадцатого века, кто-то "ревизирует" открытия века. Темы эти так же необъятны и бесконечны, как долог и век двадцатый.***

***"Народная воля" решила подступиться к самому простому и в то же время самому сложному — чувствам века. Любовь, ненависть, зависть, нежность, страх, боль, жадность, коварство, скука... Вы скажете, они неизменны и в пятнадцатом, и в девятнадцатом, и в двадцать первом веке. И все же у чувств каждого века своя особенность, свой аромат, своя неповторимая окраска...***

***"Народная воля" открывает цикл "Чувства века" миниатюрой Анны СОУСЬ "Страх"***

# Страх

...Более десяти лет она избавлялась от нелепого детского страха. Когда-то отец, возвращаясь из лесу с корзинкой грибов, привез семилетней дочке оригинальный, как ему казалось, трофей — мертвую змею. Змеиный труп на рогатине напоминал свисавшую гибкую резину. "Что это?" — спросила она. Размахивая безжизненной змеей, отец подошел поближе. "Смотри, что я тебе принес", — сказал он и кинул змею ей под ноги...

Около месяца она за сто метров обходила место, куда бросили болотно-лесную тварь. Несколько лет она не могла дотрагиваться рукой даже до изображения пресмыкающихся в книгах, и зажмуривала глаза, если по телевизору показывали ползающих тварей. Не один год по ночам ее мучили кошмарные "змеиные" сновидения. Просыпаясь в холодным поту, она хотела кричать и... не могла, пропадал голос. С годами "змеиный страх" постепенно проходил. Но даже и сейчас, заходя в зоопарке в террариум, она понимает, что тот жуткий детский страх еще не отпустил ее окончательно...

Градации человеческого страха бесконечны. Есть примитивный страх пустого темного дома. А есть беспросветный ужас пассажиров тонущего корабля за две минуты до того, как последняя часть кормы скроется под водой. Бесполезен страх перед операцией на сердце. Бесконечен страх должника, который, как загнанный зверь, скрывается от своего беспощадного преследователя. Есть сумеречный страх, когда сзади слышны чьи-то шаги и очень боязно обернуться. Материнский страх, когда проверяешь, дышит ли спящий ребенок. Страх сказать "нет" и пойти против. Страх умереть от неизлечимой болезни. Страх ожидания смерти. Страх принятия ответственного решения. Страх взглянуть в глаза тому, кого только что предал. Страх первой ночи. Навязчивый страх при виде зловещего "воронка". Страх перед неотвратимыми последствиями Чернобыля. Страх за рулем задавить человека. Страх солдата на передовой. Страх хоронить собственных детей. Рабский страх диктаторских режимов. Жалкий страх усердных служак. Женский страх, когда визжат при виде мышек и пауков. Просто страх...

Зловещ и вечен человеческий страх. Это и предупреждение о грозящей опасности, и болезненные изломы психики, и спущенное нам сверху наваждение.

Необъяснима и любовь человека ко всевозможным "страшилкам". От наивных детских историй про черного человека, разбившееся зеркало и ожившую на кладбище статую до изощренных современных кроваво-психологических "ужастиков", которые смакуют в темных комнатах истосковавшиеся по острым ощущениям современники.

Непередаваемо и удовольствие от чувства преодоления собственного страха — на спор переночевать на кладбище, первый раз прыгнуть с парашюта, "дать в морду" самоуверенному амбалу, прилюдно сказать высокопоставленному подлецу, что он подлец...

Надо ли побеждать собственный страх? В некоторых случаях — да. Режиссер фильма "Обыкновенный президент" Юрий Хащеватский как-то рассказывал о том, как его поразило следующее высказывание Алеся Адамовича на суде: "Старик Моисей, когда записывал заповеди, забыл об одиннадцатой: не бойся". "Это невероятно простая, "очищенная" мысль, — сказал Хащеватский. — И именно тогда у меня начался этот внутренний процесс освобождения от рабства, от страха".

Девочка освободилась от "змеиного" страха за десять лет. Некогда изнасилованная женщина может так никогда и не расстаться с кошмарным наваждением — связаны руки, зажат рот, нестерпимая боль внизу живота — такое тяжело забывается. Целые народы веками не могут расстаться со страхом, навеянным кровавыми диктаторами. А может, действительно, где-то затерялась одиннадцатая заповедь: не бойся!

## Профсоюзы готовятся к акции протеста

Акции протеста против проводимой властями социально-экономической политики, роста цен и обнищания трудящихся намерены провести 2 декабря в Минске, а также ряде других регионов Беларуси пять крупнейших профсоюзов, входящих в Федерацию профсоюзов белорусскую. Это профобъединения автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, радиоэлектронной и оборонной промышленности, Национальной академии наук, работников машиностроения и приборостроения. Акцию поддерживает и президиум Совета ФПБ.

Как сообщили корреспонденту БелТА в республиканском совете профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, для подготовки акции создан координационный совет. Заявка на проведение митинга и шествия в Минске с участием 30 тысяч человек подана в положенные сроки в столичный горисполком.

Протест коллег намерен поддержать и Свободный профсоюз белорусский, который ранее заявил о проведении 7 декабря трехчасовой предупредительной забастовки в случае невыполнения правительством требований, принятых на митинге трудящихся 5 ноября текущего года.



## У 70 працэнтаў дзяцей-мінчан імунная сістэма мае адхіленні ад нормы

Практычна 70 працэнтаў дзяцей, якія жывуць у Мінску, маюць тыя ці іншыя адхіленні ў паказчыках імуннай сістэмы, другі раз нават па двух-трох паказчыках.

Пра гэта паведаміла вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута радыяцыйнай медыцыны Міністэрства аховы здароўя Ніка Грэсь, выступаючы на сумесным пасяджэнні двух дэпутацкіх камісій Мінгарсавета — па экалогіі, горадабудаўніцтве і землекарыстанні, а таксама па ахове здароўя і сацыяльным забеспячэнні.

У выступленні Н.Грэсь былі прадстаўлены вынікі маніторынгу здароўя 500 дзяцей-мінчан, праведзенага ў гэтым годзе. Яго вынікі паказалі, што ва ўсіх дзяцей-мінчан — і здаровых, і хворых — вірусны імунітэт паніжаны. Прычым пражыванне ў спрыяльных раёнах горада (Зялёны Луг, Уручча) або ў не зусім чыстых (Партызанскі, Фрунзенскі раёны) практычна не адбіваецца на адхіленні імунітэту ад нормы.

Па ўтрыманні фармальдэгідаў у паветры "рэкардсменам" стаў Партызанскі раён: у прамавугольніку, які ўтвараюць вуліцы Пуліхава, Захарава, Першамайская і Платонава, утрыманне фармальдэгідаў перавышае гранічна дапушчальную канцэнтрацыю (ГДК) у восем разоў. Нават у паветры дзіцячага парка імя М.Горкага ўтрыманне гэтага таксічнага рэчыва перавышае норму ў 2,5 раза.

Вынікі маніторынгу хімічнага ўтрымання пітной вады выявілі, што найбольш частыя захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы ў тых дзяцей, якія карыстаюцца водазаборам у Навінках, дзе самае вялікае ў Мінску ўтрыманне хларыдаў. Агульная захворваемасць дзяцей, у тым ліку страўнікавага тракту, аказалася найбольшай у Цэнтральным раёне горада. Па сухіх рэштках найгоршая вада водазабораў у Навінках (з-за хларыдаў) і ў Пятроўшчыне (з-за жалеза).

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

### Рэаліі

## Уцекачы ад арміі з'явіліся і ў глыбінцы

Не самыя лепшыя часы перажываюць сёння беларускія Узброеныя Сілы. Разам з падзеннем прэстыжу ваеннай службы не вызначаецца асаблівым здароўем і маладое папаўненне. З выклікаемых на Віцебшчыне на апошнюю прызыўную камісію 6.238 юнакоў былі прызнаныя годнымі да службы ў арміі 3.881 хлопец. Кінуліся наўцёкі ад войска 90 юнакоў, супраць якіх распачата 6 крымінальных спраў, а яшчэ тры разглядаюцца судамі. Упершыню за многія гады такія адказнікі з'явіліся і ў сельскай мясцовасці. Па два з патэнцыяльных салдат праігнаравалі выклік у райваенкамат у Браслаўскім, Докшыцкім і Віцебскім раёнах.

Каб выканаць планы па фарміраванні часцей, сёння прыходзіцца прызываць на службу сотні раней судзімых і не вельмі здаровых юнакоў. У прыватнасці, сёлета быў накіраваны ў войска з Талачына хлопец з лобнай траўмай галавы, а з Гарадка — разумова адсталы юнак. Як сцвярджаюць афіцэры, сёння аб вызваленні ад арміі хадайнічаюць нават міністры і іх намеснікі. Аб стварэнні сучасных высокапрафесійных і баяздольных частей можна толькі марыць.

**Уладзімір ШАЙКОЎ.**

### Спорт

*Баскетбол*

## Перамога, якую чакалі

Пасля 9-месячнага перапынку ўзнавіўся адборачны турнір да чэмпіянату Еўропы-99. Мужчынская зборная Беларусі прымала каманду Ізраіля. Шчыра кажучы, цяжка і прыпомніць, калі да гэтага ў апошні раз збіраліся разам усе нашы мацнейшыя ігракі — Куль, Мешчаракоў, Крыванос, Байдакоў, Кузьмін... Як вядома, гэтаму перашкаджала шмат абставінаў, адна з якіх — вучоба гэтых баскетбалістаў у ЗША. Магчымасцяў прыязджаць адтуль гуляць за родную зборную яны былі пазбаўлены. Тым часам на нашу каманду, у якой гулялі пераважна ігракі мясцовых клубаў, было балюча глядзець. Асабліва ў першым крузе гэтага турніру, у якім беларусы здолелі атрымаць толькі адну перамогу — над датчанамі. А буйныя паражэнні ад Ізраіля, Іспаніі і Украіны, а таксама пройгрыш далёка не баскетбольнай Англіі, гонару зборнай, зразумела, не прыбавілі. Як вынік — апошняе месца пасля першага круга. Аднак у другім, здаецца, усё павінна змяніцца карэнным чынам. Прынамсі, вельмі гэтага хацелася б. Зрэшты, і падставы для такіх меркаванняў ёсць. Па-першае, у зборную вярнуліся некалі недасягальныя для трэнераў нашы "амерыканцы", якія, скончыўшы навучанне, пераехалі гуляць у Еўропу. Па-другое, тое, што ў нас сапраўды добрая каманда, пацвердзіла сустрэча з адным з лідэраў групы "C" — зборнай Ізраіля. У вельмі напружанай барацьбе нашы хлопцы, праявіўшы характар, перамаглі з лікам 71:65, прымусіўшы, праўда, шматлікіх прыхільнікаў баскетбола пахвалявацца. Пераможца вызначыўся толькі на апошніх хвілінах сустрэчы, а да гэтага падначаленыя Анатоля Якубенкі (для якога, дарэчы, гэта быў дэбют у якасці галоўнага трэнера) прайгравалі больш вопытнаму саперніку восем мячоў. Але добра тое, што добра заканчваецца. Можна толькі здагадвацца, як усё складвалася б для нашай каманды ў гэтым турніры, гуляй яна ў такім складзе з самага пачатку. Зрэшты, шанц на выхад у фінальную частку еўрапершынства ўсё ж застаецца. Трэба заняць, прынамсі, трэцяе месца. Пры ўмове паспяховага выступлення ў наступных сустрэчах гэта — рэальна. Дарэчы, сёння нашу зборную чакае прынцыповая гульня ў Даніі.

*Футбол*

## Кіяўляне выходзяць наперад

Набліжаецца да фінішу групавы турнір Лігі чэмпіёнаў. Камандам засталося правесці па адной сустрэчы. Прыводзім вынікі перадапошняга тура. Сярод іх адзначым поспех кіяўлян, якія дазволіў ім выйсці на першае месца ў групе. Зроблены яшчэ адзін крок насустрач чвэрцьфіналу.

*Група "A"*: Алімпіякас (Грэцыя) — Порту (Партугалія) — 2:1, Аякс (Галандыя) — Краацыя (Харватыя) — 0:1.

*Алімпіякас — 10 ачкоў, Краацыя, Аякс — па 7, Порту — 4.*

*Група "B"*: Русенборг (Нарвегія) — Атлетык (Іспанія) — 2:1. Сустрэча Галатасарай — Ювентус перанесена на наступную сераду з-за напружаных палітычных адносін паміж Турцыяй і Італіяй.

*Русенборг — 8, Галатасарай — 7, Ювентус — 4, Атлетык — 3.*

*Група "C"*: Спартак (Масква) — Штурм (Аўстрыя) — 0:0, Інтэр (Італія) — Рэал (Мадрыд) — 3:1.

*Інтэр — 10, Рэал — 9, Спартак — 8, Штурм — 1.*

*Група "D"*: Баварыя (Германія) — Брандбю (Данія) — 2:0, Барселона (Іспанія) — Манчэстэр Юнайтэд (Англія) — 3:3.

*Баварыя — 10, Манчэстэр Юнайтэд — 9, Баварыя — 5, Брандбю — 3.*

*Група "E"*: Дынама (Кіеў) — Панацінаікас (Грэцыя) — 2:1, Арсенал (Англія) — Ланс (Францыя) — 0:1.

*Дынама, Ланс — па 8, Панацінаікас — 6, Арсенал — 5.*

*Група "F"*: ХІК (Фінляндыя) — Эйндховен (Галандыя) — 1:3, Бенфіка (Партугалія) — Кайзерслаўтэрн (Германія) — 2:1.

*Кайзерслаўтэрн — 10, Бенфіка — 7, Эйндховен — 6, ХІК — 5.*

## Большасць — за неадкладныя рэформы

У Жэневе адбылося надзвычайнае пасяджэнне з удзелам прадстаўнікоў 51 нацыянальных федэрацый, якія ўваходзяць у Еўрапейскі футбольны саюз (УЕФА). На павестцы дня стаяла рэформа еўракубкаў. Як вядома, з будучага сезона плануецца зліць такія турніры, як Кубак УЕФА і Кубак кубкаў у адзін і стварыць новы турнір. Гэтае рашэнне было адобрана высокім саветам, які, праўда, прапанаваў унесці яшчэ некалькі змяненняў. Вырашана, каб турнір праходзіў па алімпійскай сістэме. Прапаноўваецца таксама змякчыць лёс каманд, якія застануцца на 3-х месцах на першым этапе групавых турніраў Лігі чэмпіёнаў — яны трапяць у новы Кубак Еўропы. Дарэчы, большасць федэрацый настойваюць, каб змяненні адбыліся менавіта з будучага года. Апошняе слова цяпер за выканкамам УЕФА, які адбудзецца ў снежні.

**Зміцер ЯРМАК.**

## У будаўніцтве — "інвестыцыйная паўза"

Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва нашай краіны фіксуе зніжэнне інвестыцыйнай актыўнасці ў галіне. У кастрычніку на ўзвядзенні аб'ектаў вытворчага прызначэння было асвоена 7 трыльёнаў 569 мільярдаў рублёў — на 15 працэнтаў менш, чым у адпаведны перыяд мінулага года. Сярод асноўных прычын гэтай "інвестыцыйнай паўзы" спецыялісты міністэрства называюць зніжэнне плацёжаздольнасці заказчыкаў. Пры гэтым на працягу апошняга месяца цэны на асноўныя будаўнічыя матэрыялы айчыннай вытворчасці ўзраслі больш як на 23 працэнты.

**БелТА.**

### Жизнь, как ее видит журналист

## Владимир ШИК

# Последний путь – скорбный и... дорогой

Девяностолетний дед Антон знал, что делал. Когда исполнилось ему 80, решил, что пожил на этом свете достаточно и... сделал аккурат по высокому своему росту деревянный гроб, который дожидался хозяина на чердаке под дахом ровно 10 лет.

Жил Шимановский вдвоем со старухой в небольшой деревеньке, затерянной в лесной глуши на стыке Минской и Витебской областей. До ближайшего сельсовета — добрый десяток километров, случись что, хлопот не оберешься. Да и не любил дедушка советские порядки с их привычной халтурой и разгильдяйством. Мебель в доме своем сделал собственными руками, только домовину для супруги изготовлять наотрез отказался.

В последнюю зиму жизни дедушка долго и тяжело болел, даже почти не вставал, и тогда заботилась о нем верная спутница жизни Мария. Но в один из мартовских вечеров как залезла погреться на печку, так и уснула навеки. О внезапной смерти узнали соседи и дали знать о беде детям и внукам. Убитый горем хозяин все же распорядился и наказал одному из деревенских мужиков, тоже мастеру по дереву, из припасенных сухих досок соорудить крест и гроб с крышкой для хозяйки. И правильно поступил, ибо в те дни мело и вьюжило так, что света белого не было видно, добираться в районный пункт похоронных услуг было крайне затруднительно по заснеженной лесной дороге...

Каждому из нас судьба уготовила неведомый час, чтобы переступить невидимую тонкую линию, отделяющую земную жизнь от небытия. Перешагнуть ее людям дано только в одном направлении, откуда обратной дороги нет. В наши дни таких скорбных и печальных событий становится все больше. Так, на Витебщине в последнее время ежедневно покидают этот мир в среднем 59 сограждан. Рождается же лишь около 30 младенцев. Заметьте, наблюдается печальная картина в регионе, казалось, самом благополучном после чернобыльской беды, уже на протяжении десятка лет.

За последние годы ушли из жизни 21,7 тысячи моих земляков. Здешнее население уменьшилось еще на 9,7 тысячи. Непросто живется людям, еще накладнее в финансовом плане становится хоронить умерших и погибших. Вот и думают люди горькие думы, особенно на селе, как и за что пристойно похорониться. Пышные похороны в глубинке редки, поскольку и зарплаты поменьше городских, да и их зачастую задерживают. Цены на ритуальные услуги между тем неукротимо растут.

Еще в начале года решением Витебского облисполкома директивно определялось, что цена на гроб не должна превышать 315 тысяч рублей. Такая изнурительная, со слов работников похоронной службы, работа, как копка могилы, оценивается в 250 тысяч рублей, доставка умершего автобусом-катафалком — 435 тысяч. В середине лета в цехе ритуальных услуг Поставского райбыткомбината самый дешевый деревянный гроб стоил уже 768 тысяч рублей, сегодня же цена "изделия" подскочила до отметки 1.385 тысяч рублей. Когда наведывался в этот спеццех, в скорбном зале оставался один гроб, а еще три уже забрали. Бывает, что за день их расходится по 5—6 штук, в месяц доходит до 60—70. И здесь "отоваривается" далеко не весь район.

Не от хорошей жизни стали заниматься "гробовым" ремеслом многие колхозы и совхозы, а также предприятия, имеющие столярные мастерские. Одно время Воропаевский деревообрабатывающий комбинат имел выгодный заказ по поставке крестов в Германию. Свой цех появился и у Глубокского дома-интерната для одиноких и престарелых людей, который как-то удостоил своим вниманием президент.

Сегодня любое бытовое специализированное местное предприятие предлагает более 10 видов различных услуг ритуального плана, включая выделение специального агента по обслуживанию похорон. Помимо гробов, здесь продают траурные венки и корзины стоимостью от 400 до 581 тысяч рублей, выполняют заказы на надгробные памятники, цена которых колеблется от 3,5 до 16 миллионов.

Впрочем, имущественным расслоением не только при жизни уже никого не удивишь. На Витебщине находят спрос и шикарные 30-миллионные лакированные гробы. А для Патриарха Московского во время последней пастырской поездки по спецзаказу сплели венок из живых цветов стоимостью 43 миллиона рублей. За недостающими белыми гвоздиками послали гонца из Витебска в столичную цветочную фирму.

Люди стараются выполнить свою работу с душой, но получают в бытовке гроши. К примеру, девушки-веночницы, из Постав получили в последнюю зарплату по миллиону двести тысяч рублей. Лучше остальных заработки у рабочих по изготовлению памятников — под три миллиона рублей. В советское время они имели до 400 рублей — на уровне секретаря райкома партии. Теперь же на один гроб приходится 18 различных видов налогов и платежей. В пояс нужно кланяться этим людям, что не уходят, не бросают печальное, но необходимое всем дело.

Когда сегодня в семью приходит беда, для большинства людей похороны становятся непомерно разорительными по затратам. Недавно знакомая врач хоронила свою мать. Только обрядить и доставить усопшую на кладбище составило более трех миллионов рублей. Хотелось, чтобы все было по-людски, не хуже, чем у других. Поэтому пришлось потратить на поминки еще около 150 долларов. Теперь семья живет от зарплаты до зарплаты, осталась почти без всяких сбережений.

Впрочем, везде в мире похороны — вещь дорогая. К слову, в Швеции, где недавно стажировалась знакомая журналистка областной газеты, все граждане на этот случай застрахованы. Только один гроб в северной стране потребует 4000 крон — четверть средней зарплаты. С покойником дома не прощаются, как у нас, а держат в гробу в холодильнике при больнице до кремации или отпевания, которое бесплатно проводит церковь. О дате погребения — обязательно траурное сообщение в местной газете. Сами поминки скромны и непритязательны. На столе не будет спиртного, лишь кофе и бутерброды.

В нашей бедной стране пуще прежнего на похоронах теперь пьют как родственники, так и приглашенные. Поминальные столы по обилию угощений похожи на свадебные. Даже в самом слабом хозяйстве помогут семье транспортом, выпишут продуктов по умеренной цене, окажут другую необходимую помощь. Потом случается — одна трагедия рождает новую.

Так произошло в Полоцке, где летом возвращались после поминок домой мать со своим 47-летним сыном. Почему-то женщина решила вернуться за скорбный стол. Бывший в подпитии сын закурил в постели и вскоре задохнулся в дыму вспыхнувшего пожара, погиб нелепой смертью. Собравшиеся на похороны в Витебске родные еще до погребения так "набрались", что устроили пожар в квартире, где в огне сгорел... гроб с покойником. Там же, в областном центре, дочь-алкоголичка вообще закопала свою умершую престарелую мать в подвале собственного дома, чтобы не тратиться на похороны.

Бедствие наших дней — и нашествия мародеров на кладбища. Берут воры не только цветы и венки, но даже надгробия и награды для продажи. Все чаще случается, что малолетние "отморозки" крушат все подряд на безмолвных могилах...

При нынешней нашей убогости и бедности нам и в необозримом будущем по уровню жизни, включающему и современный похоронный сервис, не дотянуться до европейских стран. Единственно, что в последние годы с активизацией церковной жизни стали чуть более ухоженными и не такими заброшенными, как раньше, сами кладбища...

Ну, а дедушка Антон, про которого я начал свои заметки, после похорон жены стал совсем плох и на четвертый день отправился вслед за своей Марьюшкой. Погода почти не улучшилась, и колхоз снова выделил трактор, чтобы расчистить дорогу, а также машину и автобус. Детям пришлось остаться в родной хате и, не опомнившись от одних похорон, вновь окунуться в море горя и слез.

Следующей весной на маленьком сельском кладбище сыновья и дочери возвели на могилах родителей гранитный памятник. Бывая изредка здесь, в тиши немолодых берез и сосен, как-то острее чувствуешь всю быстроту и скоротечность нашей жизни. Вспоминая ушедших, хочется, чтобы для живущих было поменьше бед и огорчений.

